

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1992 ЛІСТАПАД 3 Аўторак

№ 208 (393)

Цана 1 рубель

## ПЕРШАЯ КАЛОНКА

# ШТО ТРЭБА ВЕДАЦЬ, ПЕРШ ЧЫМ РАЗБІЦЬ ЛОБ

**МАКСІМ ГРЭК, аглядальнік «ДВ».**

Ёсць у беларусаў неблагая прымаўка: пашлі дурня Богу маліцца, ён і лоб разаб'е. Праўда, двухсэнсоўнасць сучаснага яе разумення прымушае ўдакладніць некаторыя паняцці. Папершае, якому ж Богу маліцца?

У нашых продкаў падобнага пытання не ўзнікала.

Але тыя часы даўно мінуліся. Вытравілі з нашых сэрцаў Госпада як у непасрэдным сэнсе, так і самым шырокім тлумачэнні. У людзей не толькі няма агульнага ідэалу (прабачце, мы сур'ёзныя людзі — нельга ж лічыць поўную кішэню грошай ідэалам чалавечай супольнасці!), але і агульнай мэты. Дзядзька Маркс і яго паслядоўнікі дасягнулі ўрэшце таго, што просты чалавек ад неблагога слова «сацыялізм» жагнаецца не менш горача, чым ад нячысціка.

Ды без клёку ў галаве жыць цяжкавата: у імя чаго лоб разбіваць?

Самы найпрасцейшы шлях — абвясціць Богам чалавека, яго правы і свабоду. Але натоўп Богачалавекаў над адным кавалкам кілбасы будзе надта ж нагадваць статак продкаў Адамавых, дзе свабода валодання кавалкам глушыцца правам першага ўдару ў сківіцу. Для абвяшчэння Богачалавека трэба першым чынам стварыць чалавечыя ўмовы жыцця для будучага Бога.

Другі бок прымаўкі пра лоб — каго ж лічыць дурнем? Можа, ужо наспеў, урэшце, час зразумець, што мы ўсе—беларускі народ? Што мы не згуртаванне грамадзян карэнных нацыянальнасцей і нацыянальных меншасцяў? Што прадстаўнік беларускага этнасу — маскоўскі генерал — ані ў якім разе не прадстаўнік беларускага народа? А чукча, які тут жыве і паважае гэтую зямлю, — самы што ні на ёсць «беларускі народ»?

Раз мы жывём на гэтай зямлі, а з цягам часу жадаем жыць, як Богачалавекі, трэба нарэшце зразумець—для беларускага народа сёння можа быць толькі адзін Бог, адзін ідэал — беларуская дзяржава. І ўжо з гэтых пазіцый глядзець на навакольны свет.

85 працэнтаў прамысловасці Беларусі арыентавана на Расію. Гэта — у інтарэсах нашай дзяржавы? Мы не можам сёння абраць іншы шлях, акрамя як «Гайдар шагает впереди». А куды ён крочыць, аднаму яму і вядома. Усе спробы аздаравіць эканоміку, фінансы разбіваюцца аб прывязку нашай эканомікі да расійскага рубля. Дык няўжо не зразумела, што галоўная задача рэспублікі — у найхутчэйшыя тэрміны зламаць эканамічную залежнасць ад Расіі?

Нашыя вытворцы, скардзіўся на сесіі старшыня Нацыянальнага банка спадар Багданкевіч, ажыццяўляюць пастаўкі на Ўсход без усялякай аплаты за тавары. Гэткая гуманітарная дапамога. Я ўяўляю, як схапіліся за галаву нашыя фермеры, пачуўшы пра падораныя на суму ў чатыры мільярды трактары «Беларусь». А хатнія гаспадыні ціпіком выцерлі слязу, успамінаючы галодны Санкт-Пецярбург, якому добрыя дзядзькі з Беларусі падарылі гару мяса.

Але чаму на той жа сесіі ніхто не задаўся пытаннем — а хто вінаваты?

Бог з ёй, з эканомікай, хоць яна і вызначае ўсе іншыя аспекты існавання. А як быць з пытаннем нацыянальным? Справа ў тым, што дзяржава не бывае не нацыянальнай. І калі мы будуем сваю дзяржаву, то патрабаванне дзяржаўнасці для іншай мовы, акрамя беларускай, у нашых умовах з'яўляецца актам не толькі антыбеларускім, але і антыдзяржаўным. Паспеў, на мой погляд, час паставіць кропкі над «і» — мы будуем дзяржаву, сваю дзяржаву. Мы нікога не прымушаем браць у гэтым удзел, але і перашкаджаць нам гэта рабіць не дазволім. Нацыяналізм (у яго першасным, сапраўдным значэнні — любоў да свайго народа, сваёй дзяржавы) павінен стаць дзяржаўнай палітыкай Беларусі.

Не трэба баяцца гэтых слоў. Яны сведчаць толькі пра неабходнасць абароны натуральных правоў беларускага народа, не закранаючы гонар аніводнай яго нацыянальнасці. Між іншым, дадатковым гарантам адсутнасці ахвяраў беларускага дзяржаўнага нацыяналізму становіцца той факт, што на Беларусі няма такой нацыі, якая не мела б сваёй нацыянальнай дзяржавы.

Калі мы асэнсуем, хто ж мы на самай справе і якому Богу молімся, тады да нас прыйдзе і разуменне таго, што службу мы спраўляем надзвычай нядбайна, нестаранна, як адчэпнае. Разбіць лоб у гэтай справе нам не дасць інстыкт самазахавання, а вось укленчыць шчыра хоць раз — зусім не пашкодзіць.

*P. S. Між іншым, двухсэнсоўнасць прымаўкі ў сучасных умовах тлумачыцца тым, што разбіць лоб усё ж надзвычай лёгка: надта многа жадаючых маліцца на міфічны інтэрнацыяналізм, штучную славянскую еднасць, неажыццявімы пакуль што сапраўдны лібералізм.*

## С НОВОСЕЛЬЕМ!





# ПА-ДЕ-ДЕ... НА НОВОМ МЕСТЕ

*Фото ВАЛЕРИЯ АЛЕШКЕВИЧА, БЕЛИНФОРМ.*

*НОВОСЕЛЬЕ справило Минское хореографическое училище. События этого коллектив ожидал многие годы. И вот свершилось!*

*В просторном, построенном по специальному проекту здании, — 10 балетных классов, интернат, столовая, здравпункт, парикмахерская, спортивный и, что очень важно, театральный залы. Сейчас азы хореографии осваивают в стенах училища не только белорусские ребятишки, но и их сверстники из России, Грузии, Украины, Казахстана и даже Японии и Австралии. И неудивительно. Белорусская хореографическая школа пользуется заслуженным авторитетом,и потому многие хотят получить специальное образование именно здесь. Нынче конкурс при поступлении в училище составил 15 человек на место.*

▲ **Такое здание-дворец получило Минское хореографическое училище.**

▲ **Урок классического танца ведет педагог Наталья Валентиновна Николаева.**

## ІНФАРМБЮРО

### КАЛЯНДАР

**ВОСЕНЬ. 308 ДЗЕНЬ ГОДА.**

**СОНЦА** ўзышло ў **7.13**, зойдзе ў **16.33**. Даўжыня дня **9.21**.

**МЕСЯЦ**—першая чвэрць.

### ІМЯНІНЫ

**СЁННЯ: Іларыёна, Сільвіі.**

**ЗАЎТРА: Аляксандра, Канстанціна, Альгерда, Кароля.**

### ЯК ПАВЕДАМІЎ ГІДРАМЕТЦЭНТР

**СЁННЯ ў 11 гадзін у Мінску было 7 градусаў цяпла. Ціск 735 мм ртутнага слупа. Адносная вільготнасць 92 працэнты. Вецер паўднёвы—5—11 м/сек.**

**ЗАЎТРА ў Мінску чакаецца воблачнае, з праясненнямі надвор'е, магчымы ападкі. Тэмпература паветра ноччу і днём 4—6 градусаў цяпла.**

## СІТУАЦЫЯ

# «СТРАЙК—НАШ АПОШНІ СРОДАК»

**НАТАЛЛЯ КАРТЫШАВА.**

Сесія Вярхоўнага Савета павінна разглядзець пытанне аб павелічэнні настаўніцкай зарплаты. У выпадку адмоўнага рашэння Пленум рэспубліканскага савета прафсаюзаў работнікаў адукацыі мае намер аб'явіць забастоўку. Карэспандэнт «Добрага вечара» сустрэўся **са старшынёй абкама прафсаюзаў работнікаў адукацыі Святланай Фёдараўнай СІМАНЬКОВАЙ.** Вось што яна паведаміла:

**— Сёння становішча работнікаў адукацыі даволі цяжкае. Нават пасля павышэнняў зарплаты, якія адбыліся за апошнія два гады, сярэдні аклад настаўніка складае ўсяго 3640 р. Гэта 63% ад сярэдняй зарплаты служачага ў прамысловасці.**

**У ліпені ўрад прыняў пастанову аб павелічэнні ставак работнікам адукацыі ў 1,3 разы. Пазней пад націскам прафсаюза гэту лічбу павялічылі да 1,5. Але нават пры такім каэфіцыенце павышэння заробак настаўніка будзе на 22% меншы, чым у служачага. Нельга, аднак, сказаць, што праца ў педагога лягчэйшая, чым у інжынера ці бухгалтара. Але сярэдні аклад інжынерна-тэхнічнага работніка складае 7013 руб., а настаўніка вышэйшай катэгорыі —чатыры з паловай тысячы.**

Усе даплаты настаўнікам — за дадатковыя гадзіны, за класнае кіраўніцтва — застаюцца пакуль што на ўзроўні 2—3-гадовай даўнасці. А шпаркая інфляцыя вельмі хутка з'ядае ўсе накопленыя грошы. Прадпрыемства, каб павысіць зарплату, можа павысіць цану на сваю прадукцыю. Школа такой магчымасці не мае. Зрэшты можна ўвесці платнае навучанне? Але зразумела, што не кожны здолее дазволіць сабе такую раскошу. Напрыклад, месяц вучобы ў прыватным ліцэі фірмы «Мока» каштуе 4 тыс. руб. Нават калі дзяржаўная школа запатрабуе менш, шмат каму з вучняў прыйдзецца развітацца з марай аб далейшай адукацыі. Гэта крыўдна не толькі ім, але і настаўнікам. Але, відаць, калі патрабаванне педагогаў аб павышэнні ставак не будзе выканана, яны пойдуць і на такі, як сказала Святлана Фёдараўна, антыгуманны і несправядлівы крок. Увогуле амаль усе выхавацелі, настаўнікі і выкладчыкі не хацелі б даходзіць да крайніх мер. І хоць абсалютная большасць працоўных калектываў — 93%—падтрымалі рэзалюцыю Рэспубліканскага савета па каардынацыі забастовачнага руху, але многія лічаць, што страйк — не лепшае выйсце са склаўшайся сітуацыі.

Па словах Святланы Фёдараўны, страйк пачнецца толькі тады, калі будуць вычэрпаны ўсе іншыя сродкі вырашэння канфлікту. Весціся забастоўка будзе строга, згодна з Законам аб вырашэнні калектыўных працоўных спрэчак.

**— Мы не жадаем уцягваць настаўнікаў у супрацьзаконныя дзеянні.**

Склаўшаяся зараз сітуацыя непрыемна ўжо тым, што самая свядомая і перадавая частка грамадства, якой заўсёды з'яўляліся педагогі, выступае супраць урада, хаця разумее, з якімі цяжкасцямі звязана выкананне іх патрабаванняў. Але ж трэба і ўсім нам зразумець, што менавіта ад іх, ад настаўнікаў, выкладчыкаў, выхавацеляў, залежыць наша будучыня. А, зразумеўшы, пачалі б больш пільна прыслухоўвацца да іх патрэб, памятаючы, што настаўнік — галоўная прафесія на Зямлі.

## АЛЬТЕРНАТИВНАЯ СЛУЖБА

**Фото ВЛАДИМИРА ШУБЫ, БЕЛИНФОРМ.**

**В ПЕРВОМ Доме ребенка г. Минска можно встретить сейчас двух молодых парней, которые приехали сюда из Германии. Альтернативную службу Арнт фохг Боделшвихгх из Белефельда и Мартин Груб из Бонна решили пройти в качестве младшего медперсонала в одном из медицинских учреждений Беларуси.**

**Приехать сюда и проходить службу в городском Доме ребенка они смогли при содействии организации «Акция искупления» и Белорусского благотворительного фонда «Детям Чернобыля». В течение семнадцати месяцев Арнт и Мартин ежедневно будут ухаживать за детьми, имеющими нарушения психики и физические недостатки.**



**НА СНИМКАХ: Мартин Груб и Арнт фохг Боделшвихгх со своими подопечными.**

## ДЕЛОВОЙ МИНСК

# «ГРИГЕР МАЛЛИЗОН» В МИНСКЕ

**ИРИНА ГЕРМАНОВИЧ, «ДВ».**

СЕГОДНЯ известно каждому, что экономика республики на последнем издыхании. Понятно также и то, что без иностранных инвестиций она и вовсе погибнет. Правительство предпринимает кое-какие шаги в этом направлении, заключая межгосударственные соглашения о сотрудничестве. Хотя конкретных результатов пока не ощущается, ибо государственные структуры, которые по роду своих обязанностей должны этим заниматься, дремлют. Несравненно больших успехов достигают предприниматели, выходя напрямую на своих западных партнеров.

Недавно Минск посетила группа представителей финансово-промышленных деловых кругов Северной Германии. О серьезной заинтересованности немецких бизнесменов говорит тот факт, что среди них были адвокаты, экономисты, эксперты по самым различным сферам бизнеса. Этому, конечно, предшествовала напряженная, интенсивная работа. Изучались правовые, экономические и другие предпосылки для возможности инвестирования немецкого капитала в экономику Беларуси. Полгода назад создано совместное белорусско-германское предприятие «Инвестмент и Консалтинг», основная деятельность которого — оказание консалтинговых услуг. Владелец СП с немецкой стороны—г-н Ях, с белорусской—г-н В. Титовец.

Подтверждением важности и значимости этого визита немецких партнеров и несомненной удачей является то, что в их числе приехал господин Григер Маллизон, один из крупнейших «китов» германских деловых кругов. Владелец крупнейших в Европе консалтинговых фирм, г-н Григер имеет огромный вес далеко за пределами ФРГ. Его фирмы обладают большим опытом и практикой в изменении экономической структуры Германии. После объединения с ГДР «Григер Маллизон Консалт» приняла активное участие во многих процессах сближения благодаря своей компетентности в вопросах разукрупнения фирм, приватизации государственных предприятий и т. д. Опыт, безусловно, весьма ценный для нас. Какова же конкретная цель визита? На пресс-конференции, посвященной этому визиту, г-н Григер сказал:

— Деятельность наших фирм на территории Беларуси будет направлена на инвестирование частного капитала предпринимателей из Германии для реализации проекта в области строительства, промышленности, реконструкции объектов недвижимости. Мы занимаемся разработками концепции разгосударствления и приватизации, изменения вида собственности. Предлагаем конкретные программы перехода государственных организаций на рыночные экономические отношения, консультации. Надо сказать, что в ФРГ существует немало заинтересованных фирм, которые хотели бы сотрудничать с белорусскими партнерами. Но отсутствие какой бы то ни было информации тормозит дело. Налаживанию взаимовыгодных контактов препятствует и проблема правовых гарантий для вложения капитала. Речь идет не о правовом диктате западных инвесторов, а об элементарной, стабильной законодательной и правовой базе.

Господин Григер и его коллеги отметили, что, по их мнению, стоимость рубля слишком занижена по отношению к марке. С выравниванием экономической ситуации это соотношение, безусловно, изменится. Теоретически мы все знаем, что живем в разных экономических системах. На практике эта разница вырастает чуть ли не в пропасть. Посетив несколько минских заводов и беседуя с директорами, обе стороны убедились, что зачастую даже не понимают друг друга. Как воздух, необходимо нам сближать мировоззрение, психологию, восприятие партнеров. Это подтвердил и мэр города А. Герасименко, на встрече с которым немецкие бизнесмены представили свои проекты. Речь идет о строительстве завода по производству оконных рам, бисквитной фабрики и бизнес-центра наподобие Хаммеровского в Москве, строительстве или реконструкции двух зданий в Минске. Г-н Григер подчеркивает, что они заинтересованы в долгосрочной солидной работе, рассчитаной приблизительно на 15 лет. На это имеется окончательное решение фирмы о серьезных намерениях в области инвестирования. Фирма «Григер Маллизон Консалт» открыла свое представительство на базе СП «Инвестмент и Консалтинг».

## БЫВАЕТ И ТАКОЕ

# КОЕ-ЧТО О ЧЕЛОВЕЧНОСТИ

*АНАТОЛИЙ БЕЛОУС, корреспондент «ДВ»*

*Не помню кто сказал, что от любви к животным мы становимся человечнее. Лишний повод убедиться в правоте этого афоризма — ситуация, которую наблюдал в прошедшую пятницу во дворе нашей редакции, у дома по проспекту Скорины, 44.*

*Глянул издали и насторожился, никак пожар. По выдвижной механической лестнице на высоту шестого этажа карабкался пожарник при полной экипировке. Но вот тебе раз, лестница развернута не в сторону окон и балконов, а к вершине гигантского тополя. Присмотрелся и глазам своим не поверил, на ветках покачивался кот...*

*— А как бы Вы поступили? — улыбается Николай ЛЕУС, старшина СВПЧ № 4 Советского района. — Приходит к нам расстроенный пожилой человек, говорит, что у жены давление поднялось. Помогите, просит, добраться до Кузи. Ну чуть ли не плачет ветеран. А у нас все спокойно, вызовов нет, вот и решили подсобить. И руководство добро дало. Мол, одна нога здесь, другая там...*

*Сержант Александр КОЗИЧ уже ухватил шустрого верхолаза и спускался вниз. Хоть и удивленно, но одобрительно к этому происшествию отнеслись прохожие и жильцы дома. И, знаете, сибирский красавец кот того стоил. Правда, сейчас на него после высотной прогулки без содрогания нельзя было смотреть. Мокрого, озябшего, испуганного таким вниманием к своей персоне Кузю препроводили в руки хозяина. А его радости не было предела...*

*Ей-Богу, будь моя власть, объявил бы служивым благодарность. За проявление человечности...*

## ОСТРЫЙ СИГНАЛ:

# ХОЛОДНО!

**РАДОСТЬ ЗАСЕЛЕНИЯ НОВОГО ДОМА № 57 ПО УЛИЦЕ БУРДЕЙНОГО (ЖЭС-83) ОМРАЧЕНА ДЛЯ ЖИЛЬЦОВ СУЩЕСТВЕННЫМ НЕДОСТАТКОМ: В НЕМ НЕТ ТЕПЛА. НАШ ЧИТАТЕЛЬ С. КРАСОВСКИЙ СООБЩАЕТ, ЧТО СИСТЕМА ОТОПЛЕНИЯ ОТКАЗЫВАЕТ КАЖДЫЙ ДЕНЬ.**

**У ЖИЛЬЦОВ ДОМА № 15 ПО УЛИЦЕ БЕРЕСТЯНСКОЙ (СОВЕТСКИЙ РАЙОН, ЖЭС-5) — ТОЖЕ ПЕРЕБОИ, НО С ГОРЯЧЕЙ ВОДОЙ. ЕЕ НЕ БЫЛО С 9 ПО 22 ОКТЯБРЯ, ЗАТЕМ, ПОЯВИВШИСЬ ВСЕГО НА ТРИ ДНЯ, ОПЯТЬ ИСЧЕЗЛА. КТО СКАЖЕТ, ДО КАКОГО ВРЕМЕНИ!**

## АНОНС

# РЕТРОСПЕКТИВА ХЕРЦОГА

**ВЛАДИСЛАВ ФРОЛЬЦОВ.**

**Любителей хорошего кинематографа ожидает событие: 3 ноября в Минском Доме офицеров начинается показ фильмов современного немецкого режиссера Вернера Херцога.**

**Херцогу 50 лет. Первый фильм «Признаки жизни» он сделал в Греции в 1967 г., а последующие работы создавал в Африке, Перу. И только в 1974 г. снял первый фильм в Германии — «Каждый за себя и Бог против всех» (специальный приз за режиссуру на Международном кинофестивале в Каннах, 1975 г.).**

**С тех пор имя Вернера Херцога не сходит с уст кинокритиков и знатоков кино всего мира.**

**Ретроспективу фильмов Херцога открывает именно эта картина.**

## КРИМИНАЛ-СЛУЖБА «ДВ»

**СЕРГЕЙ РАЧИЛА, пресс-центр УВД Мингорисполкома.**

### ОПЯТЬ «СЮРТЭ»!!

В МИЛИЦЕЙСКИХ сводках вновь замелькало название этой организации. 29 октября следователями Октябрьского РОВД возбуждено уголовное дело в отношении 23-летнего охранника «Сюртэ» Г., который в среду на улице Ленинградской ограбил директора малого предприятия из Казахстана М., отняв у него 23 тысячи рублей.

Спустя полчаса после ограбления преступник вместе со своим подручным из Минской области был задержан по приметам дежурным нарядом милиции Октябрьского района. Установлено, что этими людьми днем ранее был ограблен еще один гражданин — 41-летний рабочий Минского моторного завода, которому пришлось (временно) расстаться с курткой и наручными часами.

Итак, все отчетливее вырисовываются вопросы: для чего существует «Сюртэ» и какова реальная польза этой фирмы в борьбе общества с преступностью?

### ВЕЛОСИПЕДЫ УЖЕ НАДОЕЛИ!

В НОЧЬ на 29 октября из автобуса «Икарус», принадлежащего Минскому мотовелозаводу и стоявшего на территории завода, была совершена кража импортной автомагнитолы. Уж очень похожее ЧП произошло на этом же заводе и 8 октября, что дало повод думать об одном «авторе».

В результате проведенных оперативно-следственных мероприятий эта версия сыщиков подтвердилась. С поличным был выявлен и водворен в изолятор 20-летний работник... ВОХР.

Комментарии, как говорят, излишни.

### ПОМОГАЮТ...

ИЗ ГАРДЕРОБА электротехнического цеха МАЗа «улетучились» вещи и документы двоих рабочих, которые, обнаружив пропажу, тут же обратились в милицию. Спустя некоторое время следственно-оперативная группа Заводского РОВД установила и задержала воров.

